Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

№47 (607) 24 лістапада 2011 года.
Кошт свабодны.

**Выдавец:** Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.



в. Малыя Давыдкі. Турысты з Віцебска ля магілы мастака Язэпа Драздовіча.
*Фота Ул. Скрабатуна.*





## Пастаўскі раён

# Тут вам не Лас-Вегас

■ Кастусь Александровіч

**З надыходам халадоў, па меры росту цэн і эканамічных цяжкасцей паўсюдна абвастрылася і крымінагенная абстаноўка.**

Вось і ў Пастаўскім раёне знешне быццам усюды спакойна і ціха, аднак не праходзіць таго дня, каб не фіксаваліся крадзяжы з дамоў, іншых памяшканняў. Гучны рэзананс набыў факт абкрадання італьянскага спецыяліста, які ў службовай камандзіроўцы рабіў мантаж абсталявання на новых ачышчальных установах малочнага завода. У той позні вечар госць з Апенін бавіў час у адным з залаў гульнявых аўтаматаў і пазбавіўся буйной сумы валюты і вадзіцельскіх дакументаў. Італьянец і не заўважыў, як раней судзімы гараджанін выцягнуў іх з пакінутай без нагляду кішэні курткі. Праўда, аператыўнікі спрацавалі прафесійна і неўзабаве затрымалі гэтага злодзея. У іншых выпадках зрабіць гэта супрацоўнікам крымінальнага вышуку не так і проста. З пачатку года за 10 месяцаў толькі на Пастаўшчыне зафіксавана 193 выпадкі розных крадзяжоў. Найбольш "ураджайным" стаў верасень, калі было зафіксавана 62 такія злачынствы. Позняя восень ставіць новыя "рэкорды". У адну з начэй абакралі адразу 4-х індывідуальных прадпрымальнікаў, у якіх з гаража вынеслі адзення і абутку на 30 млн. рублёў. Прама з дому ўкралі грошы ў траіх пастаўчан. Што толькі не крадуць апошнім часам: каністры і акумулятары з гаражоў, будматэрыялы з дач і цэлы драўляны зруб з хутара Падсосна.

## Шаркоўшчынскі раён

# Хочаш жыць – круціся

■ Чэслаў Якубовіч.

**Сёлета з пачаткам эканамічнага крызісу стала няпроста жыць усім, але асабліва складана прадпрымальным людзям, бо ў глыбінцы пакупніцкія здольнасці насельніцтва прыкметна ўпалі.**

Аднак, нягледзячы на шэраг неспрыяльных фактараў, у райцэнтры Шаркоўшчына сям'я Марыны і Рыгора Палялейкаў адкрылі сваё кафэ. Ім было прасцей, паколькі раней у самым цэнтры паселішча яны адкрылі свой сучасны магазін харчовых тавараў "Для Вас", які пабудавалі за свае сродкі. Аднак, каб дабіцца гэтага, спатрэбілася ўпарта працаваць амаль два дзесяцігоддзі. Яны рызыкнулі і пайшлі ў бізнес адразу пасля распаду СССР. Першапачатковы капітал займелі ад продажу ўласнай каровы і астатняй жыўнасці на падворку. Муж адкрыў тады відэакафэ, пазней заняўся вырабам надмагільных помнікаў. Крыху пазней у іх ужо была свая невялічкая станцыя тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіляў. Цяпер сям'я прадпрымальнікаў мае ўжо 14 наёмных работнікаў, але, як і раней, лягчэй займацца бізнесам не стала на фоне шалёнай інфляцыі і цяжкасцей з валютай. Не мае даўно Марына з мужам вольнага часу, каб паспець усё зрабіць, не загубіць пачатую справу. Задумалі прадпрымальнікі давесці да ладу і пашырыць яшчэ адну сваю прадуктовую краму ў райцэнтры, а вось пустуючы будынак былой сталовай райпа ім чамусьці не перадалі ў карыстанне.

## Полацкі раён

# У Зюзі аб'явіўся брат

■ Станіслаў Раманчук

**У каляндар важнейшых сусветных культурных падзей на 2012-2013 гады такая паважаная арганізацыя пры ААН, як ЮНЕСКА, уключыла і 1150-годдзе з дня заснавання старэйшага беларускага горада Полацка.**

З удзелам прадстаўнікоў ЮНЕСКА ў горадзе над Дзвіной пройдзе міжнародная навуковая канферэнцыя, палачан запрасілі правесці ў Парыжы спецыяльную выставу з нагоды слаўнага юбілею. На такім вось прыгожым фоне на мясцовай зямлі стартаваў чарговы арыгінальны турысцка-экалагічны праект " У госці да дзеда Лесуна". Да падобнай ідэі першымі прыйшлі яшчэ ў 2005 годзе ў Пастаўскім раёне, дзе адкрылася незвычайная сядзіба родзіча Дзеда Мароза – Зюзі Паазерскага і стала неўзабаве лепшай турысцкай праграмай знаходжання ў Беларусі. Палачане для аналагічнай сядзібы выбралі ваколіцы возера Якаўцы. У маляўнічым месцы на турбазе мясцовага камбіната хлебапрадуктаў адзін з домікаў дастаўся ўладару лясных прастораў з жонкай. У аформленай пад рэзідэнцыю Лесуна хатцы ў ролі выконваюць дырэктар мясцовага СДК Уладзімір Уладзіміраў са сваёй жонкай Наталляй, па сумяшчальніцтве мастацкім кіраўніком клуба. Астатняе было, як кажуць, справай тэхнікі. На Полаччыне ўмеюць ладзіць розныя імпрэзы накшталт грыбных, лазневых, ягадных і бульбяных фестываляў. Тут упэўнены, што і Лясун прыжывецца ў раёне, які з задавальненнем наведваюць турысты з розных куткоў краіны і замежжа.




# Лічба нумара

**19%** - да такога ўзроўню паставіў перад сабой задачу ўрад Беларусі знізіць узровень інфляцыі ў наступным 2012 годзе. Па меркаванні эканамічнага блоку ўпраўленцаў Саўміна, гэта дазволіць збалансаваць асноўныя макраэканамічныя паказчыкі развіцця айчыннай эканомікі, якая сёлета скацілася ў сур'ёзны крызіс, а жыццёвы ўзровень большасці насельніцтва істотна ўпаў. Ужо не менш за палову беларусаў фактычна з"яўляюцца беднякамі і не маюць належных даходаў.

Неверагодны рост цэн на 89 % толькі за 10 месяцаў прывёў да такога жабрацкага становішча, калі называць рэчы сваімі імёнамі. У выніку да канца года, па разліках спецыялістаў таго ж Мінэканомікі Беларусі, рэальная зарплата суайчыннікаў знізіцца на трэць, а ў доляравым вылічэнні стане меншай у 2 разы ў параўнанні са снежнем мінулага года. Кіраўнік дзяржавы чамусьці абвінаваціў урад, што ён быццам адышоў ад курсу, вызначанаму летась Усебеларускім народным сходам. Але што ў нас можа рабіца без спушчанай з самага верху кіруючай піраміды каманды?

На самай справе рэзкае напампоўванне эканомікі пустымі, надрукаванымі грашыма і выклікала саму інфляцыю, хуткае нарастанне адмоўнага сальда знешняга гандлю да 18 % ад ВУП у 1-м квартале і недахоп золатавалютных рэзерваў. Гэта вам не льготнае крэдытаванне ўзвядзенне жылля, будаўніцтва сямі соцень буйных жывёлагадоўчых ферм і комплексаў і іншыя дзяржаўныя інвестпраекты фактычна з паветра (у рэальнасці не было на гэтыя мэты ніводнага рубля) планавалася выдаткаваць аж 32 трыльёны рублёў эмісійных грошай.

Вось тут быў, як кажуць, сабака і зарыты, што і прадвызначыла ажыятажны попыт на валюту і на тавары (народ прадчуваў цэнавы ўсплеск), а затым двайны абвал беларускага рубля і балючую для ўсіх дэвальвацыю нацыянальнай валюты. Сітуацыя магла б аказацца яшчэ горшай, чым цяпер, але "нядобрыя дзядзькі рыначнікі" Мясніковіч-Румас, якіх крытыкуюць заднім числом, зрабілі тое, што трэба. Як вядома, беларускі ўрад скараціў адразу на 10 трлн. рублёў падтрымку аграрнай галіны і яшчэ на 30 % "разануў" фінансаванне іншых айчынных інвестпраграм.

На 1 трыльён рублёў было скарочана занадта раней маштабнае льготнае ўзвядзенне жылля, за што ўсе беларусы і расплаціліся падзеннем узроўню жыцця. Рост цэн, дэвальвацыя нацвалюты, падзенне росту ВУП (фабрыкі і заводы працуюць на склад) у рэшце рэшт і дапамагло крыху стабілізаваць сітуацыю. Аднак і радавацца няма чаму, бо знешні доўг краіны велізарны і ўшчыльную наблізіўся да мяжы эканамічнай бяспекі дзяржавы – 55 % ВУП. У будучым годзе нам неабходна будзе на выплаты па раней узятых сумах крэдытаў знайсці ўжо 1,7 млрд. долараў.

Увогуле, да канца 2014 года на абслугоўванне знешніх запазычанасцей беларусам спатрэбіцца выдаткаваць 8,9 млрд. долараў. Цяпер існуе некалькі варыянтаў далейшага развіцця падзей. Калі прадоўжым ранейшы курс і не будзем праводзіць рынкавыя рэформы, а нарошчваць за кошт эмісіі рост эканомікі, то ў 2012 годзе рост цэн можа скласці – 3 разы, а курс долара дасягне 20 тыс./$. Пакуль жа Нацбанк павялічыў стаўку рэфінансавання да 40 % гадавых, беларускі рубель прадаўжае слабець.

Таму з пэўнай трывогай будзем чакаць, як наша беларуская эканоміка будзе выходзіць з крызісу, паколькі 2600 суб'ектаў гаспадарання - цяпер патэнцыйныя банкроты. Як яны будуць жыць, калі з новага года сутыкнуцца з яшчэ большай канкурэнцыяй у рамках Адзінай эканамічнай прасторы з Расіяй і Казахстанам. Невыпадкова ва ўрадзе прапанавалі ў 2012 годзе правесці іх ільготную прыватызацыю, а 619 прадпрыемстваў-поўны баласт прадаць за 1 базавую велічыню (35 тыс. рублёў).

У прыгранічных расійскіх рэгіёнах зараз сутыкнуліся з новай неспадзяванкай. Там людзі (і не толькі адны кваліфікаваныя будаўнікі) звальняюцца цэлымі брыгадамі і едуць на заробкі да суседзяў. Каб спыніліся такія працэсы, пачало паляпшацца жыццё людзей, у беларускай эканоміцы павінны адбыцца сур'ёзныя структурныя змены. Толькі гэта дазволіць з цягам часу павысіць яе ўстойлівасць і канкурэнтаздольнасць і прыйшла ўжо пара ад слоў пераходзіць да канкрэтных спраў.

## Надвор'е ў Глыбокім www.rp5ru

| | чацвер 24.11.11 | | | | пятн. 25.11.11 | | | | сб. 26.11.11 | | | | нядз. 27.11.11 | | | | пн.28.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +2 | +2 | +2 | +1 | +1 | +2 | +4 | +4 | +4 | +3 | +3 | +2 | 0 | +1 | +4 | +2 | +3 | +3 | +4 |
| Ціск, мм | 761 | 760 | 758 | 756 | 754 | 753 | 751 | 748 | 745 | 743 | 742 | 744 | 747 | 747 | 746 | 743 | 741 | 741 | 742 |
| Вільготнасць, % | 93 | 93 | 85 | 87 | 91 | 96 | 94 | 94 | 88 | 88 | 79 | 79 | 83 | 94 | 86 | 83 | 83 | 85 | 72 |
| Вецер м/сек | Ю-З 4 | Ю-З 7 | Ю-З 7 | Ю-З 8 | З 5 | З 5 | З 5 | Ю-З 7 | З 6 | З 6 | З 7 | З 7 | З 5 | Ю-З 4 | Ю-З 7 | Ю-З 8 | Ю-З 8 | З 8 | З 9 |
| | | 08:58 | 16:52 | | | 09:00 | 16:51 | | | 09:02 | 16:50 | | | 09:04 | 16:49 | | 09:05 | 16:48 | |
| | | 07:54 | 16:04 | | | 09:16 | 16:49 | | | 10:26 | 17:49 | | | 11:20 | 19:00 | | 11:59 | 20:18 | |

## Дзень за днём

**Палата прадстаўнікоў прыняла папраўкі ў Закон аб дзяржаўнай службе, за наяўнасць карты паляка такіх службовых асоб будуць звальняць з работы. На фоне ўступлення Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю Беларусь вымушана актывізаваць перамовы таксама аб прыёме ў СГА. Падатак на прыбытак у РБ у 2012 годзе знізілі з 24 % да 18%, стаўку ПДВ не змянілі. Для малазабяспечаных жыхароў беларускай сталіцы ўвялі дысконтныя карткі са скідкамі 3-12 % на 46 груп тавараў і харчавання. Белгідраметцэнтр услед за сіноптыкамі Англіі і Сусветнай метэаслужбы папярэдзіў, што будучая зіма чакаецца ў Беларусі вельмі халоднай і маласнежнай.**

# Важнейшыя навіны свету

**Испанія.** На фоне рэкорднага беспрацоўя (5 млн. чалавек) праходзіла передвыбарная кампанія, сацапытанні паказалі нізкія шанцы правячых сацыялістаў на перамогу.

**ЗША.** Судовы працэс над расійскім гандляром збрыёй Віктарам Бутам, прызнаным прысяжнымі вінаватым, выклікаў міжнародны скандал і незадавальненне МЗС Расіі.

**Швейцарыя.** Дэлегацыі Расіі і Грузіі падпісалі ў Жэневе заключнае пагадненне аб далучэнні РФ да Сусветнай гандлёвай арганізацыі, у якую ўваходзяць 153 краіны свету.

**Сірыя.** Улады краіны так і не выканалі свае абяцанні вывесці войскі з гарадоў у казармы, толькі ў горадзе Хомс было забіта з танкаў больш за 100 чалавек, вельмі шмат арыштавана.

**Англія.** Краіну ўзрушыла буйное здарэнне на трасе М5 у графстве Самерсэт, дзе сутыкнуліся 34 аўтамабілі, у выніку ДТЗ загінулі 7 і яшчэ 50 чалавек атрымалі раненні.

**Італія.** Пасля вымушанай адстаўкі прэм'ера Сільвія Берлусконі краіне прыйдзецца зрабіць яшчэ больш жорсткай бюджэтную палітыку, а насельніцтву зацягнуць паясы.

**Турцыя.** Міністр культуры і турызму Эртурул Гюнай пацвердзіў, што да канца 2011 года Турцыя можа падпісаць з Беларуссю пагадненне аб сумесным бязвізавым рэжыме ўезду.

**Польшча.** Глава МЗС звольніў са службы дзвюх тэхнічных супрацоўніц пасольства РП у Маскве за спробу кантрабанднага ўвозу ў краіну 100 тысяч пачак кантрабандных цыгарэт.

**Аўстрыя.** Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ) заявіла, што да 2010 года Іран стварэў сваю ядзерную зброю.

**Германія.** На балтыйскім узбярэжжы краіны ў мястэчку Любмін запусцілі 1-ю нітку новага падводнага трубапровода Nord Stream магутнасцю 27,5 млрд. куб. газу штогод.

**Літва.** Пракурор Віленскага суда запатрабаваў асудзіць да 1 года турмы ўмоўна палітыка, кіраўніка партыі "Фронтас" А. Палецкіса за адмаўленне факта савецкай агрэсіі ў 1991 г.

**Японія.** Японская карпарацыя Sony за 1,5 млрд. $ вырашыла выкупіць долю, 50 % акцый шведскай Ericsson у іх сумесным прадпрыемстве па выпуску смартфонаў і наўтбукаў.

**ЗША.** Суд прысяжных Лос-Анджэлеса адправіў у турму на 4 гады 58-гадовага доктара-кардыёлага Конрада Мюрэя за ненаўмыснае забойства поп-зоркі Майкла Джэксана.

**Саудаўская Аравія.** На хадж да святых месц ісламу ў Мецы і Медыне ўлады краіны сёлета ўпершыню нікога з 2 млн. паломнікаў не пусцілі без спецыяльных дазволаў і квот на ўезд.

**Польшча.** На прэс-канферэнцыі ў Варшаве актывіст кампаніі "Гавары праўду" прызнаўся, што быў завербаваны беларускім КДБ для распрацоўкі супрацоўнікаў польскага МЗС.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Гродна.** На ваенным палігоне А. Лукашэнка назваў Савет бяспекі ААН "безгаловым і бесталковым" і не выключыў для Беларусі наступлення няпростага часу.

**Мінск.** Абавязкам кожнага грамадзяніна Беларусі з'яўляецца, як заявіў у парламенце міністр адукацыі РБ Сяргей Маскевіч, ведаць беларускую мову і добра валодаць ёй.

**Гомель.** Каля 30 работнікаў вагонарамонтнага завода запатрабавалі ад дырэкцыі павысіць ім зарплату на 100 % альбо прапарцыянальна росту інфляцыі, палепшыць умовы працы.

**Мінск.** Калі і ў 2012 годзе, папярэдзіў прэм'ер-міністр М. Мясніковіч, будуць друкаваць па загадзе зверху пустыя грошы, то беларускі рубель абясцэніцца яшчэ болей, у 2,5 разы.

**Масюкоўшчына.** Савет Рэспублікі ўхваліў законапраект аб ліквідацыі тут дысбата за армейскія злачынствы, у ім яшчэ сядзяць 19 ваенных, дысбаты засталіся толькі ў РФ.

**Салігорск.** Адзін з багацейшых людзей краіны, уладальнік кампаніі "Трайпл" Юрый Чыж купіў тут, а таксама ў Жодзіне і на сталічнай трасе на Гродна аўтазаправачныя станцыі.

**Хоцімск.** Каля райцэнтра п'яны 35-гадовы расіянін, едучы на аўтамабілі "Рэно", зрабіў наезд і забіў на дарозе адразу трох братоў на веласіпедах ва ўзросце ад 17 да 25 гадоў.

**Мінск.** Па прапанове МНС Беларусі Белдзяржуніверсітэт з наступнага навучальнага года адкрые падрыхтоўку спецыялістаў-псіхолагаў для розных крызісных сітуацый.

**Бялынічы.** На могілках на ўскраіне райцэнтра невядомыя вандалы пашкодзілі 28 надмагільных помнікаў, з іх 7 нельга аднавіць, была распачата крымінальная справа.

**Гродна.** З дзяржуніверсітэта пасля неатэстацыі за 2-гі год навучання адлічылі па палітычных матывах аспірантку Таццяну Касатую, яна завершыць дысертацыю за мяжой.

**Мінск.** Буйным скандалам, бойкай і штрафамі завяршыўся адзін з хакейных матчаў на "Мінск-Арэне", гледачы крычалі "Рускія, дамоў!", кідалі на лаўку "Віцязя" бутэлькі.

**Жодзіна.** Упершыню ў сваёй кар'еры жодзінка Настасся Новікава (вагавая катэгорыя да 58 кг) заваявала ў апошняй спробе ў Парыжы званне чэмпіёнкі свету па цяжкай атлетыцы.

**Маладзечна.** Электрычка, якая рухалася з 50 пасажырамі, позна вечарам сышла з рэек на пад'ездзе да станцыі "Мінск-Паўночны", пацярпелых, на шчасце, не аказалася.

**Бабруйск.** На адной з вуліц горада вечарам моцна п'яны 35-гадовы работнік "Белшыны" з абрэза паляўнічага руўжа абстраляў міліцыянераў, гора-стралка затрымалі.

**Мінск.** У сталічных ВНУ пайшлі чуткі, што з новага года льготу на бясплатны праезд на транспарце ў студэнтаў адбяруць, у абласцях жа РБ моладзь за праезд вымушана плаціць.

# Меры па абмежаванні вывазу паліва ў Беларусі будуць больш жорсткімі



■ Вольга Бяляўская - БЕЛТА

У Беларусі будуць больш жорсткімі меры па абмежаванні вывазу паліва, паведаміў на сустрэчы з працоўным калектывам ААТ "МАЗ" прэм'ер-міністр Беларусі Міхась Мясніковіч, перадае карэспандэнт БЕЛТА.

"Як бы гэта ні было непапулярна, я падпісаў пастанову, каб не раз у пяць, а раз у восем дзён выязджаць за мяжу, за выключэннем тых, хто едзе ў камандзіроўку, выконвае свае функцыянальныя абавязкі ці працуе па дамове наймання", - растлумачыў Міхась Мясніковіч. Гэтыя меры неабходны для абмежавання вывазу з краіны нафтапрадуктаў, падкрэсліў ён.

Пастанова пакуль не выйшла, у наш час адпрацоўваюцца механізмы для яго ўводзін, удакладніў прэм'ер-міністр. Кіраўнік урада нагадаў, што з-за дыспарытэту коштаў міжнародныя аўтаперавозікі актыўна пачалі вывозіць дызпаліва з Беларусі ў іншыя краіны для перапродажу. "Кошт паліва ў нас адрозніваецца прыкладна на $1,5 за літр у параўнанні з Польшчай, Літвой, Латвіяй, - нагадаў ён. - Калі ёмістасць бака складае адну тону, а то і больш, перавозчык мае прыбытак каля $1,5 тыс.".

З-за сітуацыі, якая склалася, рэзка ўзрасла рэалізацыя дызпаліва ў Беларусі. "У выніку нашы нафтазаводы маюць адмоўны баланс з-за таго, што не могуць выбавіць неабходную колькасць рублёў, каб іх сканвертаваць і купіць новыя партыі нафты", – канстатаваў кіраўнік урада.

Ён таксама адзначыў, што перапрадажам паліва займаюцца і кіроўцы легкавых аўтамабіляў. "Шматлікія ператварылі гэта ў выгадны бізнес, аднак ён прыносіць шкоду для эканомікі і яго трэба перарываць", - рэзюмаваў Міхась Мясніковіч.

# З 15 лістапада даражэюць тэлефонная сувязь і паштовыя паслугі

■ Марына Паўлава

З 15 лістапада - чарговае падвышэнне коштаў. На гэты раз больш плаціць будзем за стацыянарныя тэлефоны і за паштовыя паслугі.

Абанплата за хатні тэлефон для фізічных асоб з 15 лістапада павялічваецца на 50,8 адсоткаў. Замест 3050 зараз яна складзе 4600 беларускіх рублёў. Штохвілінная аплата таксама стала больш - з 10 рублёў павялічылася да 15. Бясплатна ў месяц можна выкарыстоўваць 60 мінут. Тыя ж абаненты, чые тэлефоны не перакладзены на пачасовую сістэму аплаты, будуць у месяц плаціць 6600.

З 15 лістапада даражэй абыдзецца і перасыланне простых лістоў, бандэроляў. І фізічным, і юрыдычным асобам перасыланне ліста будзе абыходзіцца ў 500 рублёў. Атрымліваецца, за адну і тую ж суму зараз можна адправіць або адзін ліст, або тры смс-кі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Полацк.** Латгальскі акруговы суд Латвіі прызначыў на сёння разгляд іску ААТ "Полацктранс нафта "Дружба" аб спрэчных 110 тыс. тон нафты ў трубе на Вентспілс.

**Лепель.** Будучай вясной сельгаспрадпрыемства "Пражэктар" саўбу грэчкі ўпершыню правядзе ўласным насеннем, сёлета быў добры ураджай, намалацілі 216 тон грэчкі.

**Віцебск.** Пры спробе перабегчы днём дарогу на чырвоны сігнал святлафора трапіла пад калёсы тралейбуса 13-гадовая вучаніца 8-га класа і атрымала цяжкія траўмы ступні ног.

**Орша.** Ля абменнага пункта валют на чыгуначным вакзале міліцыя затрымала 40-гадовага жыхара Смаленска з 1,8 грамамі наркотыка амфетаміну, распачата крымінальная справа.

**Глыбокае.** Навучэнцы мясцовага прафліцэя занялі 1-е месца з прэміяй 5 млн. рублёў у воблсці па выніках аказання дапамогі вяскоўцам на ўборцы вырашчанага ўраджаю.

**Талачын.** Ноччу з калгаснай фермы ў вёсцы Варанцэвічы яго работнік скраў кабылу, міліцыя высветліла, што крадзеж ён зрабіў на пару з беспрацоўнай са Шклоўскага раёна.

**Докшыцы.** Супрацоўнікі ДАІ змаглі знайсці вадзіцеля, які вечарам зрабіў наезд на вучаніцу 11 класа і спрабаваў уцячы з месца ДТЗ, дзяўчыну змясцілі ў бальніцу.

**Ушачы.** За незаконна здабытую на паляванні казулю еўрапейскую суд пакараў жыхара раёна штрафам на суму 4,2 млн. рублёў, яшчэ 2 мільёны браканьер заплаціў добраахвотна.

**Шуміліна.** На працягу двух дзён у райцэнтры, а таксама ў СДК аграгарадкоў Нікіціха і Слабада праходзіла абласное свята народнага гумару "Смяяцца – не грэх".

**Полацк.** У лясным масіве паблізу вёскі Труды настаўніца мясцовай школы знайшла снарад часоў II Сусветнай вайны, група разміравання знішчыла смертаносны прадмет.

**Віцебск.** У дворыку аднаго з карпусоў ветакадэміі ўстанавілі, а потым схавалі да вясны новы помнік ветэрынарнаму ўрачу "Доктар Айбаліт".

**Полацк.** Рэктарат дзяржуніверсітэта набыў спецкрэслы для ланч-канцэртаў класічнай музыкі для студэнтаў і выкладчыкаў.

**Паставы.** Да 5 гадоў зняволення зноў пагражае раней судзімаму 45-гадоваму гараджаніну, які ўкраў ноччу ў зале гульнявых апаратаў 550 еўра ў грамадзяніна Італіі.

**Гарадок.** Рэйдавая група паблізу возера Ціоста затрымала двух браканьераў, якія паставілі на вадаёме аж 16 сетак даўжынёй 1,2 км і здабылі 57 кг адборнай рыбы.

**Віцебск.** За патрабаванне аплаціць паездку ў тралейбусе жыхар горада атрымаў ад "зайца" удар нажом у сэрца, яго жыццё выратавалі медыкі, злачынцу затрымала міліцыя.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Нядаўна мы завіталі ў мястэчка Лужкі да спадара Мікалая Конана, колішняга навучэнца Глыбоцкай педвучэльні, сябра падпольнай арганізацыі "Саюз Беларускіх Патрыётаў", вязня ГУЛАГУ...**

**Гэты чалавек зведаў усё: здраду сяброўпадпольшчыкаў, турму, цяжкую працу на Поўначы, немагчымасць працаўладкавацца на радзіме... І ўсё ж у свае 82 выглядае на 65. Цікавы апавядальнік, які шмат памятае... Тое, што прапанавана ўвазе чытачоў, гэта ўрывак з успамінаў, якія мы запісалі. Урывак аб падзеях 17 верасня 1939 г у Глыбокім.**

# – Чолгі! Чолгі!

■ **Уладзімір Скрабатун**



**Мікалай Конан**

– У 1939 годзе ў Лужках здарыўся вялікі пажар, згарэла шмат хатаў у цэнтры, згарэла і нашая. Мяне бацькі "дэсантам" закінулі да бабулі ў Глыбокае. Жыў я на вуліцы Сянкевіча, якую цяпер клічуць Горкага, а яшчэ раней, да палякаў, – Копцеўка[1]. Бабулін дом стаяў справа, калі ехаць з Лужак у Глыбокае, насупраць Гарадскога Парку (Ogród Miejski)[2], які атачала чырвоная цагляная сцяна[3].

1 верасня пачалася вайна: немцы напалі на Польшчу. А я 1 верасня пайшоў у 4-ю клясу Глыбоцкай школы паўшэхнай. Гэта была новая, толькі што пабудаваная школа на тры паверхі, якая стаяла насупраць цяперашняга Гарадскога дома культуры[4]. Пахадзіў я ў школу ўсяго два тыдні…

Маімі сябрамі сталі два хлопцы, якія жылі праз пару дамоў ад мяне, і былі яны палякамі. У іх бацькоў было радыё, таму мы ведалі, якія падзеі разгортваюцца на тэрыторыі Польшчы, хоць гэта і было вельмі далёка ад Глыбокага. Чулі, што немцы бамбяць Варшаву, з радыё мы і пачулі такое слова – "czołg". Таму ўжо ведалі, што "czołg" – гэта танк.

Добра памятаю гэты дзень. Нядзеля 17 верасня 1939 года. Цудоўны сонечны дзень, цёпла. Было дзесьці а 9-й, мо і а 10-й раніцы. Я быў у хлопцаў, з якімі ўжо паспеў пасябраваць. І тут пачуўся нейкі рокат: р-р-р-р…

Адзін з хлопчыкаў выбег з панадворка на вуліцу і закрычаў: "Czołgi! Czołgi!"

Выбеглі і мы ўдвох… Бачым – ідуць дзве рускія танкеткі. На кожнай з вежаў, да ўзроўню пояса, з люка вытарчаліся постаці танкістаў у шлёмах… Мы пільна назіралі за ўсім гэтым, бо такі цуд мы бачылі ўпершыню!

Танкі ўжо даехалі да царквы… Як адтуль, з-за агароджы, – "Бабах!!!" Танкісты ігненна нырнулі ў вежы, люкі закрылі. І тут усё як замітусілася! Бо не адны ж гэтыя два танкі ехалі, але й калона з аўтамашынаў… Пабеглі да царквы!

Тая сцяна ёсць і цяпер. Між тым памятаю, як раней, у гадах 1936-37-х, падчас антыяўрэйскай кампаніі на той царкоўнай сцяне вялікімі літарамі палякі напісалі заклік **"Nie kupujcie u żydów!"** . Як бы антырэклама: "Не купляйце ў яўрэяў!"

Дык вось, з-за гэтай агароджы ў танкіста стрэліў малады хлопец – стшэлец (strzelec)[5].

Падрабязнасцяў я не ведаю: ці хто падказаў рускім, ці гэты хлопец і не ўцякаў зусім, але яго злавілі. Без суда і следства тут і расстралялі. Мітусня скончылася.

У другой палове дня надвор'е сапсавалася. Пачаўся невялікі дожджык. Ужо пайшла пяхота. Як убачылі мы гэтае войска… Мама родная!!! Нам ўсё гэта дзіка паказалася на фоне польскіх жаўнераў, якія былі апранутыя і абутыя як мае быць: і боты і мундзір! А гэтыя ідуць ў бацінках і абмотках! Жах! У нас ма ніхто так не насіў! У нас абувалі боты! Адно, што ў іх падабалася, гэта зорачкі на пілотках. Прыгожыя, чырвоныя!

Ішло іх вельмі шмат… У хаты не заходзілі. Памятаецца, ужо ўвечары, дождж ішоў, мая бабуля кажа аднаму з іх:

– Салдацік, зайдзі ў хату, папі малачка!

Я – не с*о*лдат, я – б*о*ец!

Вось гэта ўрэзалася ў памяць, сказаў, як адрэзаў: "Я – не с*о*лдат, я – б*о*ец!" Так і не зайшоў. Пэўна, такая ў іх каманда была.

Чырвонае войска ішло і на другі дзень. У сярэдзіне дня з касцёла на Копцеўку накіравалася пахавальная працэсія: ішоў ксёндз і чалавек трыццаць, неслі труну з забітым стшэльцам… Уся праезная частка была запоўненая войскам… Гэта цяпер могуць спыніцца і машыны, і аўтобусы, і людзі, каб прапусціць пахавальную працэсію. Але толькі не 18 верасня 1939 года… Труну неслі па вузкім ходніку, які быў толькі з аднаго боку, з другога боку вуліцы ходніка не было, там уздоўж яе ішла цагляная сцяна. Пахавалі стшэльца на Копцеўцы. Як імя яго, не ведаю.





С этой церкви
во время польской
войны 1939 года
в сентября месяце
18 числа нас обстреляли из пулемета
Польские паны
После мы их уничтожили.
Веселов
участник похода


**Паштоўка 1930-х гг з відарысам Беразвецкага манастыра.**
Ніжэй – адрасны бок той самай паштоўкі з надпісам: *«С этой церкви во время польской войны 1939 года в сентябре месяце 18 числа нас обстреляли из пулемёта польские паны. После мы их уничтожили. Веселов С.В., участник похода.»*

**Заўвагі:**

[1] ёсць шмат назваў гэтае вуліцы. Самая старажытная – Альгердаў шлях, колісь яна называлася і Дзісненскай вуліцай;

[2] на гэтым месцы цяпер стадыён;

[3] сцяну былога кармеліцкага саду разабралі падчас суботніка недзе ў 1970-ым годзе, частка яе (насупраць цвінтара Копцеўка) захавалася і сёння;

[4] 3-павярховы будынак школы быў узарваны ў 1944 годзе пры адыходзе немцаў з Глыбокага;

[5] Związek Strzelecki «Strzelec», аддзел якога існаваў і ў Глыбокім. Масавая моладзевая патрыятычная арганізацыя ў Польшчы (у 1939 г налічвала каля 495 000 членаў).

**Адзін знаёмы прынёс і паказаў мне дзве манеты: рымскі сестэрцый II стагоддзя і грэцкую манету таго ж перыяду, калі Грэцыя была рымскай правінцыяй. Манеты знойдзеныя ў раёне ракі Мнюта.**

**Другое стагоддзе – залаты век Рымскай імперыі, яе росквіт. Часы Марка Аўрэлія, імператара і філосафа.**

**Я трымаў у руках гэтыя манеты…**

# Глыбоччына: II стагоддзе – у залаты век Рымскай імперыі

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Манеты праляжалі ў зямлі 18 стагоддзяў... І тут міжволі ўзнікае пытанне: які народ пражываў на тэрыторыі Глыбоччыны ў часы Рымскай імперыі, якой сама была рака Мнюта?**

Шукаюць на гэтае пытанне адказ і навукоўцы... Вядомы навуковец, доктар біялагічных навук А.І. Мікуліч у кнізе «Беларусы ў генетычнай прасторы. Антрапалогія этнасу» піша, што папуляцыі карэнных жыхароў Беларусі вядуць свой радавод бесперапынна не меней 130-140 пакаленняў, гэта азначае, самае позняе з сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н.э. Гэтае меркаванне падзяляюць і іншыя беларускія гісторыкі і антраполагі: беларусы па сваёй антрапалогіі (шыракатвары тып) і генах нязменныя мінімум 3500 гадоў.

Каля 2500 гадоў назад усё індаеўрапейскае насельніцтва Еўропы размаўляла практычна на адной мове, до латынь і грэцкі (як і архаічныя мовы ўсходніх балтаў, якія захаваліся амаль нязменнымі з тых часоў) – здаваліся толькі ГАВОРКАМІ адной мовы.

Таму 2500 гадоў назад старажытныя жыхары Глыбоччыны таксама размаўлялі на той жа мове, а не на нейкай іншай, як камусьці здаецца. На гэтай жа мове размаўлялі будучыя немцы, французы, іспанцы, англічане, славяне – іх мовы з'явяцца толькі праз шматлікія стагоддзі ці дзясяткі стагоддзяў. Менавіта па гэтай прычыне была магчымая экспансія Рымскай імперыі на амаль усю Еўропу: у той час Еўропа была населена індаеўрапейскімі плямёнамі, якія разумелі адзін аднаго і рымскую мову без перакладчыка.



**Сестэрцый часоў Марка Аўрэлія, II ст. (аверс і рэверс).**

Зразумела, на фоне Дзісны і Заходняй Дзвіны рака Мнюта не такая ўжо і вялікая, аднак на тэрыторыі Глыбоччыны яна і сёння – самая значная рэчка. А які была 18 стагоддзяў таму? Ды што там 18 стагоддзяў! Сорак гадоў таму і Бярозаўка, і Аржаніца нават на памяці майго пакалення былі не тымі, што сёння! Змялелі, здрабнелі...

На картах сярэдзіны XIX ст. рака Мнюта адзначаная як шырокая паўнаводная рака. Ёсць нямала задакументаваных сведчанняў, што ў даўнія часы па рацэ Мнюта плытагоны сплаўлялі лес не толькі да Дзісны, але і далей па Дзвіне аж да самой Рыгі.

Зрэшты, рака Мнюта была не толькі водным шляхам з Глыбоччыны ў Еўропу, але й зімовым гасцінцам, калі па лёдзе на санях ездзілі ў тую ж Рыгу за соллю. Даўней жа добрых дарог не было... А замерзлая Мнюта чым не дарога!

Не дзіва, што мой знаёмы знайшоў тут дзве манеты часоў Рымскай імперыі. Зразумела, гэта не канец апавядання. Мы яшчэ паспрабуем атрымаць каментар ад спецыялістаў па гэтай тэме.

Меркавана, што ў 2012 годзе, калі на месца выедуць спецыялісты з Інстытута Гісторыі НАН РБ, мы шмат даведаемся аб яшчэ больш цікавых фактах і знаходках... Усё ж цікава, якім чынам рымскія манеты з'явіліся на беразе Мнюты.

Таямнічая і загадкавая рака!

# За 10 гадоў доля дзяцей у агульнай колькасці насельніцтва Беларусі скарацілася на 5,6%

**За апошнія 10 гадоў доля дзяцей у агульнай колькасці насельніцтва Беларусі скарацілася на 5,6%.**

На пачатак 2011 года ў краіне налічвалася 1 млн. 737,4 тыс. чалавек ва ўзросце да 18 лет. З іх 40% – дзеці да 7 гадоў (695,1 тыс. чалавек), 41,3% – 7-14 гадоў (718,1 тыс.), 18,7% — падлеткі 15—17 гадоў (324,2 тыс.). Такія звесткі паведамілі БелаПАН у Нацыянальным статыстычным камітэце напярэдадні Сусветнага дня дзіцяці, які адзначаюць 20 лістапада.

Доля дзяцей у агульнай колькасці насельніцтва краіны скарацілася з 23,9% на пачатак 2000 года да 18,3% на пачатак 2011 года, у тым ліку якія жывуць у сельскай мясцовасці — з 22,3 да 18,1%.

Паводле звестак перапісу насельніцтва 2009 года, колькасць сем'яў, якія маюць дзяцей да 18 гадоў, склала 45%. Для параўнання: паводле вынікаў перапісу 1999 года непаўналетніх дзяцей мелі больш за 56% сем'яў.

Трох і больш дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў, паводле вынікаў апошняга перапісу, выхоўвалі 62,5 тыс. сем'яў, ці крыху больш за 5% сем'яў, якія маюць дзяцей.

Варта адзначыць, што ў 2007 годзе, упершыню пасля 1995-га, лік нованароджаных у Беларусі перавысіў 100 тысяч. Узровень нараджальнасці павялічыўся з 9,0 на 1.000 чалавек у 2003 годзе да 11,4 — у 2010 годзе.

У 2010 годзе ў краіне нарадзілася 108 тыс. дзяцей — 55,7 тыс. хлопчыкаў і 52,3 тыс. дзяўчынак.

За студзень—верасень гэтага года нарадзілася 80,9 тыс. дзяцей, што на 115 дзяцей больш, чым за такі ж леташні перыяд. Узровень нараджальнасці склаў 11,4 на 1.000 чалавек і ў параўнанні з паказчыкам мінулага года не змяніўся.

Сёлета ўзровень нараджальнасці вышэйшы за сярэднерэспубліканскі адзначаны ў Брэсцкай вобласці (12,6 на 1.000 чалавек), Мінскай і Гродзенскай (па 11,8). У Гомельскай вобласці гэты паказчык нязначна перавысіў узровень нараджальнасці ў сярэднім па краіне (11,5).

На долю першых нараджэнняў у 2010 годзе прыпадала 52,3%, на долю другіх і трэціх — 44,7%, тады як у 2005 годзе на долю першынцаў прыпадала 58,2%, другіх і трэціх дзяцей — 38,5%.

Паводле звестак Міністэрства аховы здароўя, у 2010 годзе, паводле вынікаў прафілактычных аглядаў, толькі 27% дзяцей не мелі адхіленняў па ўсіх прыкметах здароўя або мелі нязначныя адзінкавыя адхіленні, што не патрабавалі карэкцыі, гэта значыць, былі прызнаныя здаровымі. У 2005 годзе гэты паказчык складаў 28,4%.

Доля дзяцей, якія маюць першую групу здароўя, сярод падлеткаў 15—17 гадоў ніжэйшая, чым ва ўзроставай групе да 14 гадоў.

15,3% дзяцей у 2010 годзе мелі хранічныя паталогіі, прыроджаныя дэфекты развіцця ці інваліднасць (трэцяя і чацвёртая групы здароўя).

*Марына Носава, БелаПАН*


Фота Ул. Скрабатуна

# Браслаўская міліцыя сканфіскавала з краязнаўчага музея кулямёт «Максім»

**«Ва ўмелых руках нашага народа і палка можа стрэліць».**

**Браслаўскі краязнаўчы музей трапіў пад аперацыю «Арсенал» — добраахвотную здачу нелегальнай зброі дзяржаве. Экспазіцыя часоў Другой сусветнай вайны, якая захоўвалася ў зале з сігналізацыяй, цалкам апынулася ў Браслаўскім РАУСе.**

Скарыстацца такой зброяй немагчыма ў прынцыпе: усе механізмы з яе папярэдне выдаленыя. Гэта ўсё адно, што паспрабаваць праехаца на мінскім танку-«вызваліцелю», што стаіць ля Дома афіцэраў.

Сярод сканфіскаванай у Браславе зброі ёсць і ўлюбёнец публікі, кулямёт «Максім», ля якога заўжды фатаграфаваліся турысты і жыхары Браслава.



«21 адзінка зброі, — кажа дырэктар браслаўскага музейнага аб'яднання Аляксандр Панцялейка. — Аднак нам вернуць яе тады, калі ў нас будуць дакументы на зброю. Пасля выбуху ў метро гэта здарылася — там была пастанова правецці аперацыю „Арсенал“ у тры дні да першага мая. Уся музейная зброя непрацоўная — гэта агульнавядома, мы прад'явілі дакументы, якія пацвярджаюць гэта. Аднак высветлілася, што да нас патрабаванні, як да паляўнічых: уся зброя мусіць мець афармленне».

У Браслаўскім РАУСе інфармацыю пацвердзілі, аднак зброя ўжо паспела пераехаць ва Упраўленне ўнутраных справаў Віцебскага аблвыканкама. Вернуць яе ў Браслаў, калі музей аформіць дакументы. «Музею патрэбна ліцэнзія дзяржаўнага ўзору, — кажа начальнік браслаўскай міліцыі Вячаслаў Грышчанка. — У любым выпадку гэта зброя наразная, нават не паляўнічая, на наразную зброю абавязкова патрэбна ліцэнзія.

А тое, што яна непрацоўная… ва ўмелых руках нашага народа і палка можа стрэліць».

Такі самы рэйд праводзіўся па ўсіх музеях, нават школьных: туды ж прыносяць усякае, нават гранаты.

Гэта агульнарэспубліканская праграма, па ўсёй краіне праводзяцца праверкі, і ў музеях у тым ліку. Уся зброя знаходзіцца на адказным захаванні.

Як толькі будзе ліцэнзія, мы адразу зброю прывязём самі».

*Паводле nn.by*

# У Магілёве праваслаўныя святары асвяцілі аварыйныя ўчасткі дарог

**У Магілёве праваслаўныя святары 18 лістапада асвяцілі аварыйныя ўчасткі дарог.**

Былі выбраны тры аварыйныя ўчасткі — скрыжаванне вуліцы Залуцкага і праспекта Дзімітрава, праспект Пушкіна, вуліца Чалюскінцаў.

Як паведаміла БелаПАН начальнік аддзялення агітацыі і прапаганды ДАІ УУС Магілёўскага аблвыканкама Вікторыя Жаўнер, акцыя праводзілася царквой сумесна і па ініцыятыве ДАІ. Яна была прымеркавана да Сусветнага дня памяці ахвяр дарожных здарэнняў, які адзначаецца штогод у трэцюю нядзелю лістапада.

Разам са святарамі ў акцыі ўдзельнічалі дзеці — юныя інспектары руху. Яны стаялі з плакатамі, якія заклікаюць выконваць ПДР, а таксама раздавалі вадзіцелям свае лісты, у якіх гаворыцца, што ад дысцыпліны на дарогах залежыць жыццё людзей. На гэтым тыдні ва ўсіх школах горада дзеці рыхтавалі лісты і плакаты ў межах конкурсу «Памятай і задумайся», сказала Жаўнер. Паводле яе слоў, акцыя па асвячэнні ўчасткаў дарог у Магілёве прайшла ўпершыню.

Як адзначыў інспектар аддзялення агітацыі і прапаганды ДАІ УУС Магілёўскага аблвыканкама Яўген Жылінскі, вадзіцелі станоўча ўспрымалі акцыю, «ніхто не адвярнуўся».

19—20 лістапада ва ўсіх праваслаўных храмах Магілёўскай вобласці пройдуць памінальныя службы памяці загінулых у ДТЗ, а таксама набажэнствы за здароўе ўсіх удзельнікаў дарожнага руху.

Як адзначыла Жаўнер, сёлета на дарогах вобласці ўжо загінулі 122 чалавекі, у параўнанні з мінулым годам «назіраецца нязначны рост». Паводле яе інфармацыі, штогод гіне прыкладна 130 чалавек.

*Уладзімір Лапцэвіч, БелаПАН.*

# У Лынтупах на гародзе выраслі цыгарэты і салярка

■ **Сяржук Серабро**

17 лістапада смаргонскія памежнікі разам з супрацоўнікамі Глыбоцкага міжраённага аддзела дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК знайшлі на гародзе мясцовай жыхаркі 2,5 т дызельнага паліва і 1350 пачак цыгарэт.

Цыгарэты і салярку прыхаваў "да лепшых часоў" на сядзібе лынтупчанкі яе зяць. Ён патлумачыў, што зрабіў запасы на выпадак будучага падаражання гэтых тавараў.

Такое тлумачэнне, аднак, клапатліваму зяцю не дапамагло. Як паведамляе прэс-цэнтр Дзяржаўнага памежнага камітэта, ураджай цыгарэт сабралі супрацоўнікі ДФР, а паліва перададзенае на Пастаўскую мытню.

# Паляванне на бананы ў Расонскім раёне

■ **Сяржук Серабро**

**20 тон бананаў затрыманы супрацоўнікамі АДАІ РАУС і УДФР КДК у вёсцы Юхавічы Расонскага раёна.**

Як паведамляе прэс-служба МУС, груз заморскай садавіны без адпаведных дакументаў перавозіў на грузавіку «МАН» 38-гадовы жыхар Ганцавічаў. Кошт тавара складае 126 мільёнаў рублёў.

# У Браслаўскім раёне пройдзе «Каляднае ралі-2011»!

У бягучым годзе стартаваў Кубак Сяброўства па ралі, арганізаваны сіламі трох аўтамабільных федэрацый: Беларусі, Расіі і Украіны. Першыя дзве гонкі Кубка прайшлі ў суседніх краінах, на чарзе заключная гонка, якая вызначыць імя ўладальніка першага Кубка!

У перадпачатку навагодніх свят на Браслаўшчыне пройдзе фінальная ралійная гонка. Аднадзённая гонка запланавана на 17 снежня, аднак дыстанцыя заліковых спецучасткаў складзе не меней за 80 км. На старце чакаюць мацнейшых ралістаў Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы і Латвіі. Такім чынам, міжнародная гонка падорыць шмат дадатных эмоцый.



Па выніках 2-х этапаў турнірнуютабліцуўкамандным заліку ўзначальвае Беларусь. Паглядзім, ці зможа наша краіна захаваць сваё лідарства па выніках сезону (пратакол Кубка). На гэта пытанне адказ мы атрымаем 17 снежня.

*http://www.braslav-star.by*

# Мінпрыроды звяртае ўвагу насельніцтва на недапушчальнасць кармлення вадаплаўных птушак

**Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя звяртае ўвагу насельніцтва на недапушчальнасць кармлення вадаплаўных птушак.**

Як паведамляецца на афіцыйным сайце Мінпрыроды, людзі, якія кормяць качак, гусей і лебедзяў каля вадаёмаў, робяць птушкам толькі горш. Кармленне прымушае птушак адмовіцца ад пералёту на паўднёвыя і заходнія месцы зімовак. Пасля яны трапляюць у поўную залежнасць ад чалавека. Часта такія птушкі не могуць перажыць марозную зіму нават пры дапамозе чалавека.

Як сказаў БелаПАН спецыяліст па экалагічнай адукацыі грамадскага аб'яднання «Ахова птушак Бацькаўшчыны» Руслан Шайкін, падкорм вадаплаўных птушак вядзе да таго, што яны страчваюць здольнасць знаходзіць харчаванне самастойна нават летам. Паводле яго меркавання, падкормліваць вадаплаўных птушак можна толькі ў зімовы ўстойліва халодны перыяд, калі тэмпература паветра даходзіць да мінус 15-20 градусаў, і бачна, што птушкі аслабленыя. У гэтым выпадку пажадана карміць птушак размочаным збожжам, цёртай морквай ці капустай, кормам для свойскіх птушак. Нельга даваць чорны хлеб, вельмі непажадана — белы хлеб ці кашу.

У Беларусі некалькі дзясяткаў відаў вадаплаўных птушак. У ліку самых масавых – крыжанка, лебедзь-шыпун, чырок-свістунок, чубатая чэрнець, чырвонагаловы нырэц.

Спецыяліст адзначыў, што, у адрозненне ад вадаплаўных, печных птушак у халодны час можна падкормліваць, не асцерагаючыся, што яны прызвычаюцца да гэтага. Вясной пеўчыя птушкі лёгка пераключацца на натуральны корм.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*



# У Пінскім раёне браканьеры застрэлілі лася

Як паведаміў старшы дзяржаўны інспектар Брэсцкай абласной інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету Аляксандр Васечка, увечары 21 лістапада на гарачую лінію Пінскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету патэлефанаваў паляўнічтвазнавец. Ён паведаміў, што ў лесе ля вёскі Вялікія Палацы паляўнічыя знайшлі свежую тушу лася. Тры чалавекі, якія дзялілі тушу, заўважыўшы паляўнічых, схаваліся.

Распачата справа па ч. 2 арт. 282 Крымінальнага кодэкса (незаконнае паляванне). Праводзіцца пошук браканьераў. Прычынены імі ўрон склаў больш за 3,3 млн. рублёў.

Мяса лася перададзена на захоўванне ў Пінскую арганізацыю Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

Як адзначыў Васечка, у вобласці з пачатку года гэта сёмы выяўлены факт незаконнага адстрэлу лася. Па ўсіх фактах распачатыя крымінальныя справы. Практычна ва ўсіх выпадках асобы браканьераў ўстаноўлены.

*БелаПАН*

# Жанчына несла з Літвы незадэкларананыя еўра

У пункце пропуску «Каменны Лог» 16 лістапада памежнікі і супрацоўнік Ашмянскай мытні ў грамадзянкі Беларусі выявілі больш за 20 000 еўра незадэклараванай валюты.

Жанчына перасякала мяжу па «зялёным канале» пешшу з Літвы ў Беларусь. У яе сумцы з асабістымі рэчамі выявілі 21 780 еўра, якія не былі задэклараваныя.

Як патлумачыў начальнік прэс-службы Смаргонскай памежнай групы Аляксандр Колабаў, згодна з заканадаўствам фізічныя асобы пры перасячэнні мяжы праз пункты спрошчанага пропуску павінны дэклараваць замежную валюту, беларускія рублі, дарожныя чэкі звыш 10 000 долараў ЗША ў эквіваленце.

*Рэгіянальная газета*

# Паўторнае затрыманне – крымінальная адказнасць

**Штотыдзень супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі затрымоўваюць парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства: адных за незаконную здабычу рыбы сеткамі, іншых за незаконнае паляванне, парушэнні правіл высечкі дрэў, выкід смецця і іншыя парушэнні, і калі хоць бы на аднаго парушальніка стане менш, то праца інспектараў не марная.**

Артыкулы і нататкі грамадзян, што з'яўляюцца ў сродках масавай інфармацыі, кажуць пра тое, што шматлікія людзі разумеюць сваю адказнасць перад будучымі пакаленнямі, пацверджанне таму сход грамадзян у г.п. Падсвілле. На сходзе грамадзян прысутнічала няшмат людзей, але гэта ўсё адно значная падзея. Простых грамадзян турбуе лёс любімага возера, і гэта выдатна. Можа, далёка не ўсё атрымалася на сходзе і не знойдзеныя шляхі вырашэння праблемы, але галоўнае, што ёсць жаданне людзей яе вырашыць. Асобныя грамадзяне з нагоды праблемаў з возерам Алойсберг заяўляюць, што дзяржаўныя органы не жадаюць вырашаць праблему забруджвання і браканьерства, але пакуль, акрамя дзяржаўных органаў, ніхто і з грамадзян рэальных дзеянняў у рашэнні гэтых праблем не прадпрымаў. Усе толькі за нечыяй спіной «героі» і абаронцы прыроды, а калі датычыць рэальных спраў, тады хаваюцца ў кусты. Яскравы прыклад – факт забруджвання ракі Дабрылаўкі Глыбоцкага раёна ў чэрвені бягучага года. Ніводны жыхар в. Запруддзе не даў тлумачэнняў супрацоўнікам Глыбоцкай міжраённай інспекцыі, нават не паведаміў пра факт забруджвання. Колькі каштавала працы інспектарам знайсці і, галоўнае, даказаць вінаватасць цэха па перапрацоўцы малака ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка», але факт забруджвання быў даказаны, а вінаватыя ўсе ж выплацяць урон, прычынены прыродзе.

Нягледзячы на ўсё гэта, супрацоўнікі міжраённай інспекцыі робяць сваю руцінную працу па абароне прыроды, а вінаватыя нясуць адказнасць.

Так, жыхар в. Саранчаны Пастаўскага раёна грамадзянін Акелан Лявон Уладзіслававіч 6 кастрычніка 2011 года вырашыў палавіць рыбкі забароненымі прыладамі рыбалоўства, мярожамі, але быў затрыманы супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі, вынік – штраф у памеры 10 базавых велічынь.

Жыхар в. Луцк-Мосарскі Глыбоцкага раёна грамадзянін Пачкоўскі Іосіф Францавіч з дапамогай сетак лавіў рыбу на возеры Царкавішча і быў таксама затрыманы, штраф у памеры 350 тысяч і неабходнасць пакрыць урон, прычынены прыродзе, у памеры 600 тысяч рублёў астудзіць пыл рыбалова.

Такіх прыкладаў можна прыводзіць вельмі шмат, але ці заўсёды людзі разумеюць усе наступствы сваіх незаконных дзеянняў, бо кожны з двух затрыманых парушальнікаў пры паўторным затрыманні будзе прыцягнуты ўжо да крымінальнай адказнасці.

Мы ўдзячныя грамадзянам за аказваемую дапамогу ў барацьбе з браканьерамі і парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі : 8-02156-28670, маб. МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 347-85-14.

**■ А.Г. Абрамчык,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*



**– Што за экзатычныя птушкі? Грыфы?– ад нечаканасці ўбачанага такое пытанне задаў сам сабе аўтар здымка. Ды не! Гэта не паўднёваамерыканскія Анды, а двор аднаго гаспадара з вёскі Мнюта-2. І птушкі – свойскія індыкі!**

*Фота Уладзіміра Скрабатуна.*




*Валянціну Аркадзьеўну Гамаву*
*(г.п. Падсвілле)*

**Віншуем з нагоды юбілею дня народзін**

С днем рожденья, дорогая.
Поздравляем от души.
Тост поднять за твое счастье
Мы давно уже спешим.
Пусть уходят все невзгоды,
И печали все уйдут,
Только радость тебе, Валя,
Твои годы пусть несут.
Будь веселой, и счастливой,
И красивой - как сейчас.
Пусть сопутствует удача
Каждый день и каждый час.



*Калегі па працы*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

28 лістапада – 4 снежня 2011 г.

## ПАНЯДЗЕЛАК, 28 лістапада




**06.00,07.05,07.35,08.10, 08.35** Доброе утро, Беларусь!
**07.00,08.00**(ссурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Новости.
**07.30, 08.30** Деловая жизнь.
**08.45** Слово Митрополита Филарета на начало Рождественского поста.
**09.10** В центре внимания.
**10.05 «Знахарь»**
**11.00 «Отряд»**. 2-я сер.
**12.10** Мюзикл **«Слава»**
**14.05 Мультфильм.**
**14.20**«Палитра памяти».
**15.10, 19.15** Новости региона.
**15.25**Культурные люди.
**16.00** К тёще на блины.
**16.35** Тэлефільм АТН «Заслаўскімі пуцявінамі»
**16.45 «Знахарь»**
**17.45 «Отряд»**.
**18.45, 01.15** «Зона Х».
**19.30** Арена.
**19.55** Форум.
**21.00** Панорама.
**21.45,01.25**Деньспорта.
**22.00** Командировка.
**22.10 «Доктор Хаус-6»**
**23.15** Клуб редакторов.
**00.15**Премьера.**«Земля обетованная от Иосифа Сталина»** 1-я серия.

АНТ

**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.15** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Премьера. **«Апельсиновый сок»**.
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Тележурнал «Союз».
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо»**.
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Премьера. «Участковый детектив».
**16.55** «Мама вышла замуж».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «10 дней, которые потрясли Москву».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05**Токшоу«Открытый формат».
**22.10 «Побег»**.
**23.15** Премьера.«Судьба на выбор».
**00.15** «След».
**01.00-01.30** Ночные новости.




**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Ешь и худей.
**09.35** Навіны надвор'я.
**10.05** Женсовет.
**10.45** Кинопробы.
**11.15** Битва экстрасенсов.
**12.25 «Поцелуй Сократа»**1-я серия.
**13.30 «Ты моя жизнь»**
**14.25** Мультсериал **«Гора самоцветов»**
**14.50** Внеклассный час.
**15.10** Нескучный глобус.
**15.35 «Интерны»**
**16.15 «Зайцев+1»**
**16.50 «Поцелуй Сократа»**1-я серия.
**17.55 «Ты моя жизнь»**
**18.55** Хоккей. КХЛ. Динамо (Минск) – Торпедо (Нижний Новгород). Прямая трансляция.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Белорусское времечко».
**22.35 «Интерны»**
**23.20 «Зайцев+1»**
**23.50** Овертайм.
**00.15**Футбол.Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезнаяпередача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Секретные территории».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Большой город».
**13.10** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** Концерт Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35**«Кинопонедельник»: **«СЕСТРЫ»**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».




**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40** Зона «Свабоды»
**8:15“Таямніца крэпасці шыфраў»**: 3 с.
**9:00** Прэс-экспрэс
**9:20** «Эльдарада – паляванне на легенду»
**10:15** ПраСвет
**10:40** «Ваенныя гульні» Польшча: 3 серыя
**11:25** Эксперт
**11:50 “Рыса»**
**13:15** Зона «Свабоды»
**13:50“Таямніца крэпасці шыфраў»**:3с
**14:35** Прэс-экспрэс
**14:50** Чаму дэмакратыя? 10 сер:«Кампанія»
**15:45** ПраСвет
**16:10** «Ваенныя гульні» Польшча: 3 серыя
**17:00 “Таямніца Сагалі»**: 7 серыя
**17:25** Зона «Свабоды»
**18:00** Аб'ектыў
**18:05** Дак.гадзіна: «Эльдарада – паляванне на легенду»
**19:00** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:15** Моўнік
**19:30** Аб'ектыў
**19:40** Гарачы каментар
**19:50** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** Еўропа сёння
**20:25** Вагон
**20:35** «52 адсоткі», дак. фільм, рэж. Рафал Скальскі, 2007 г., Польшча–Расея
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыват. калекцыя
**22:00 “Рыса»**
**23:20** Аб'ектыў
**23:45** Гарачы каментар

ПАНЯДЗЕЛАК, 28 лістапада

Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – “Вольнае Глыбокае”.

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.

